ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 19 (2577)

14 мая 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.

9 МАЯ — ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ



**9 мая 1945 года ў Еўропе скончылася другая сусветная вайна. З той пары кожную вясну мы радуемся і смуткуем, цешымся свабодай, здабытай цаной мільёнаў чалавечых жыццяў, аплакваем тых, хто загінуў на палях бітваў або стаў бязвінным ахвярай на акупіраванай ворагам зямлі.**

**9 мая 1945 года Мінск, як і тысячы беларускіх гарадоў і вёсак, ляжаў у руінах. Але энтузіязм, душэўны ўздым і жаданне працаваць былі ў людзей настолькі моцнымі, што іх не бянтэжылі ніякія цяжкасці. І сапраўды зроблена было вельмі многа.**

**Штогод у Дзень Перамогі ўдзельнікі той вайны, якіх з цягам часу пачалі называць ветэранамі, выходзяць на святочна ўпрыгожаныя вуліцы і праспекты, збіраюцца каля брацкіх магіл і помнікаў. Ім наша ўдзячнасць за іх гераізм і ахвярнасць, мужнасць і цярплівасць.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ФАЛЬШЫВАМАНЕЦТВА — ЗЛАЧЫНСТВА ЭКСТРААРДЫНАРНАЕ

## АБАРОНЕНАСЦЬ БЕЛАРУСКАГА РУБЛЯ

У Жэнеўскай канвенцыі па барацьбе з падробкамі грашовых знакаў сказана: "Фальшывамапецтва з'яўляецца злачынствам экстраардынарным". Трэба заўважыць, што гэты від злачынства ва ўсе часы праследаваўся, як адзін з самых цяжкіх.

Прычын таму многа, і галоўная з іх: грошы ва ўсе часы з'яўляліся дзяржаўнай манаполіяй, сведчаннем і гарантыяй эканамічнай магутнасці краіны, замах на якую яна не даравала. А па-другое, з'яўленне буйных партый фальшывых грошай здольнае выклікаць у народа паніку і боязь грашовых знакаў, недавер да іх. Вынікам гэтага можа стаць неабходнасць зняцця іх з абарачэння, што азначае сур'ёзную шкоду для эканомікі. Фальшываманетчыкі з'явіліся практычна адначасова з прадметам іх падробак. Першае ўпамінанне аб падробных манетах датуецца 280—140 гадамі да нашай эры. А на Русі ўсяго праз год пасля выпуску ў 1769 годзе папяровых купюр з'явіліся іх падробкі.

Аднак, нягледзячы на тое, што практычна любая грашовая купюра з'яўляецца сумай найскладванейшых тэхналогій, усяго восем краін — ЗША, Расія, Францыя, Вялікабрытанія, Канада, Германія, Японія і Швецыя здольныя надрукаваць па-сапраўднаму надзейныя грошы. Праўда, апошнім часам у некаторых краінах СНД з дапамогай заходніх фірм пабудаваны фабрыкі, аснашчаныя па апошняму слову тэхнікі, якія друкуюць нацыянальныя валюты з высокімі ступенямі абароны (напрыклад, на Украіне ці ў Казахстане).

І ўсё ж вытворцам нават самых цвёрдых валют не варта расслабляцца: творчая думка фальшываманетчыкаў вельмі хутка дагание прафесіяналаў. Так, па словах дырэктара Дэпартамента па рабоце з каштоўнасцямі Нацыянальнага банка Уладзіміра Сянько, калі ў 1995 годзе да касавых работнікаў даводзілася інфармацыя аб шасці пэўных прыкметах, ,якія (акрамя агульнавядомых) дапамагалі выявіць суперпадробкі долараў ЗША, то на 1 студзеня 1998 года ўзровень майстэрства фальшываманетчыкаў узняўся настолькі, што засталіся толькі 1—2 прыкметы, па якіх іх маглі выявіць спецыялісты, што валодаюць прафесіянальнай тэхнікай. Словам, як удасканальваюцца сістэмы абароны купюр, так удасканальваюцца і спосабы іх падробкі.

Найбольшую цікавасць для фальшываманетчыкаў маюць цвёрдыя валюты. На першым месцы стаяць купюры ЗША стодоларавай вартасці. Сустракаецца нямала падробак новых стодоларавых купюр, тым не менш, па словах спецыялістаў Інстытута крыміналістыкі і крыміналогіі пры МУС Рэспублікі Беларусь, большасць з іх вызначыць даволі лёгка, а якасна падрабіць галаграму не ўдалося яшчэ ні ў адной з іх. Адзін з найбольш распаўсюджаных відаў падробкі — павелічэнне вартасці купюры шляхам падклейвання лішняга нуля. Гэты спосаб зручны яшчэ і таму, што пры яго выкарыстанні захоўваюцца ступені абароны самой банкноты.

Распаўсюджаны таксама падробкі нямецкіх марак і фунтаў стэрлінгаў. Суседствам з Расійскай Федэрацыяй і адсутнасцю межаў абумоўлены той факт, што вельмі

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

## МАКСІМІЛЬЯН РЫЛА — ВЫГНАННІК І АСВЕТНІК

У гэтым годзе ўвесь арабскі свет аддае даніну павагі Максімільяну Рылу — выдатнаму місіянеру на Блізкім Усходзе і ў арабскай Афрыцы першай паловы XIX стагоддзя, археолагу і арыенталісту, падарожніку — у сувязі з 150-годдзем з дня яго смерці. Рыла нарадзіўся 31.12.1802 года з Падорску Ваўкавыскага павета, у збяднелай дваранскай сям'і беларускага паходжання. Скончыў павятовую школу ў Лыскаве і Полацкую акадэмію, атрымаўшы званне магістра філасофіі. У пачатку 1820 года паступіў у Віленскі універсітэт у якасці кандыдата езуіцкага ордэна, але неўзабаве (у гэтым жа годзе) разам з выгнанымі з Расіі езуітамі адправіўся ў Рым для вучобы ў Грыгарыянскім універсітэце, дзе потым стаў прафесарам філасофіі; на працягу 10 гадоў вывучаў тэалогію і рыторыку, філасофію і рымскае права, паэтыку (Рым, Фларэнцыя, Турын), выкладаў латынь у Арвіета. Набыў славу выдатнага прамоўцы-прапаведніка на плошчах Рыма і славутага праўніка (юрыста), атрымаў сан свяшчэнніка (1833). Дасканала аваладаў італьянскай, французскай і іншымі еўрапейскімі мовамі.

Бурная дзейнасць Максімільяна Рылы на "полі дзейнасці езуітаў" (фактычна з 1820 года) патрабуе напомніць, што першыя спробы пранікнення гэтага ордэна ў Беларусь былі зроблены ў сувязі з Лівонскай вайной 1558—1583 гадоў. У 1570 годзе езуіты заснавалі свае навучальныя ўстановы ў Вільні, Полацку і іншых гарадах. Езуіцкія навучальныя ўстановы (калегіі і семінарыі) размяшчаліся ў добрых будынках, у іх строга захоўвалася чысціня і парадак. Узор такой



(Заканчэнне на 4-й стар.).

М. СЯДНЁЎ: «ВАЖУСЯ ПРАПАНАВАЦЬ...»

## КЛЯТВА ПЕРАД ТАСКАНАМ

Баптыста, галічаніна, "хахла", як яго часцей называлі, колькі ён ні супрацыўляўся, усё ж звязалі і сіламоць абстрыглі. Лагернае начальства і ягоныя памагатыя не маглі пагадзіцца, каб у стрыжаным бараку быў нехта нястрыжаны, меў прывілею хадзіць з барадою, як гэта было ў выпадку баптыста. І от у баптыста аднялі і бараду, прыгожую, пышную. Можа ў каго іншага гэтак сілком і не стрыглі б, але гвалт над баптыстам учынілі менавіта таму, што ён бап-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ЗАЯЎЛЕНА АФІЦЫЙНА*



**На восьмай сесіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая 4 мая адбылася ў Гомелі, з вялікім дакладам выступіў Старшыня Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка.**

**— Сёння з упэўненасцю можна канстатаваць, што наш Саюз адбыўся і даказаў сваю жыццяздольнасць, — адзначыў А. Лукашэнка. — Поспехі, дасягнутыя ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і ваеннай сферах, дэманструюць эфектыўнасць выбранай формы яднання. Саюз паказаў, якія рэальныя выгады нясе збліжэнне народаў на постсавецкай прасторы, пацвердзіў вернасць разнаскоранай інтэграцыі ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.**

**Саюз Беларусі і Расіі — унікальнае аб'яднанне дзвюх незалежных дзяржаў, якім уласцівая асаблівая прававая прырода, аб'яднанне, якое не мае аналага ў сусветным супольніцтве. Гэта асаблівае міждзяржаўнае фарміраванне з даклада зафіксаванай у Дагаворы і Статуце мэтай руху да добраахвотнага аб'яднання дзяржаў-удзельніц на аснове іх суверэннай роўнасці.**

*ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## АЎСТРЫЯ ВЫДЗЕЛІЦЬ КРЭДЫТЫ

**З 28 красавіка па 1 мая нашу краіну наведала з рабочым візітам буйная дэлегацыя прадстаўнікоў дзелавых колаў Аўстрыі пад кіраўніцтвам прэзідэнта Федэральнай палаты эканомікі гэтай краіны Леапольда Мадэртанера. У выніку перагавораў была дасягнута дамоўленасць аб тым, што аўстрыйскі бок выдзеліць нашай краіне крэдыты пад праекты, якія маюць вялікае значэнне для абедзвюх краін. Аб'ём напрацаваных праектаў склаў больш як 800 мільёнаў долараў ЗША.**

**Трэба адзначыць, што Беларусь наведала аўстрыйская дэлегацыя ў саставе 40 прадстаўнікоў 23 прадпрыемстваў гэтай заходняй краіны. Падчас візіту, у прыватнасці, было вызначана, што аўстрыйскія банкі маюць намер выдаць беларускаму боку крэдыты па інвестыцыйных праектах, якія ажыццяўляюцца Беларускім металургічным камбінатам (г. Жлобін) з аўстрыйскай фірмай "Фэст-Альпіне Індустрыяльнагенбау" і Маладзечанскім мясакамбінатам з фірмай "Шалер". Акрамя таго, з дапамогай аўстрыйскіх фірмаў плануецца ажыццявіць праект наваполацкага ВА "Нафтан" па мадэрнізацыі дзеючай вытворчасці, а таксама Мазырская нафтаперапрацоўчага завода сумесна з прадпрыемствам "Фэст-Альпіне" і АТ "Віцебскія дываны" з фірмай "Цімер". Вялікую зацікаўленасць праявілі прадстаўнікі аўстрыйскіх фірмаў пры распрацоўцы праекта па светлагорскаму ВА "Хімвалакно".**

*СЯБРУЮЦЬ ДЗЕЦІ*



**Даўняя дружба звязвае школьнікаў віцебскай гімназіі № 2 і амерыканскіх дзяцей з Дэарфілд Біч (штат Фларыда). Беларускія дзеці ўжо пабывалі ў сваіх сяброў у Амерыцы. І вось іх амерыканскія равеснікі прыехалі ў Віцебск. Яны азнаёміліся з славутымі мясцінамі горада, пабывалі на ўроках у гімназіі.**

**НА ЗДЫМКУ: Каця ВОЛКАВА і Эйпрыл ТОКАШ пасябравалі ў Віцебску.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*ЧЫРВОНЫ КРЫЖ*

## СВЯТА МІЛАСЭРНАСЦІ

**8 мая адзначаецца як Міжнародны дзень Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца.**

**На сённяшні дзень міжнародны рух Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца аб'ядноўвае 175 краін свету.**

**У Беларусі 466 сясцёр міласэрнасці пастаянна абслугоўваюць дома 16 409 хворых, якія патрабуюць спецыяльнага догляду, і 132 500 адзінокіх састарэлых інвалідаў у 115 пакоях і цэнтрах медыка-сацыяльнай дапамогі.**

**Толькі ў ходзе міжнароднай праграмы "Зімовы прызыў" у гэтым годзе 23 000 маламаёмных уручаны харчовыя наборы, 2 235 бяздомных і сірот атрымалі бясплатнае харчаванне, 20 488 бедным раздадзена адзенне.**

**Дзвюма дыягнастычнымі лабараторыямі абследавана 24 088 чалавек, якія пражываюць на тэрыторыі Гомельскай і Магілёўскай абласцей. Дзецям у гэтых раёнах выдадзена сухое малако і вітаміны.**

*БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА*

## ДЫПЛОМ САВЕТА ЕЎРОПЫ

**Адбылося ўручэнне спецыяльнага дыплома Савета Еўропы Белавежскай пушчы, якая ўключана ЮНЕСКА ў спіс сусветнай культурнай спадчыны, а работа "пушчанскіх" вучоных, спецыялістаў высока ацэньваецца калегамі за рубяжом. Атрыманы нядаўна дыплом Савета Еўропы пашырае магчымасці супрацоўнікаў Нацыянальнага парку ў атрыманні дапамогі ад міжнародных арганізацый.**

**Белавежская пушча стала першым прыродным аб'ектам на ўсёй прасторы былога вялікага Савецкага Саюза, які атрымаў такую прэстыжную ўзнагароду.**

*НОВЫ КОРПУС СТАРОЙ БАЛЬНІЦЫ*



**У Гродне ўступіў у строй 4-павярховы лячэбны корпус заснаванай яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя чыгуначнай бальніцы. Умовы для хворых і медыцынскага персаналу сталі камфортнымі. Сучаснае абсталяванне з'явілася ў лячэбных памяшканнях, дзе знаходзяцца тэрапеўтычнае і хірургічнае аддзяленні. Акрамя урачоў клінікі, тут практыкуюць спецыялісты кафедры хірургіі Гродзенскага медыцынскага інстытута.**

**НА ЗДЫМКУ: новы лячэбны корпус чыгуначнай бальніцы ў Гродне.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

*ПЯКУЧАЯ ПРАБЛЕМА*

## РАТАВАЦЬ ЛЁН

**Льнаводчая галіна — адзіная ў раслінаводстве краіны, якая прынесла ў 1997 годзе 22 мільярды рублёў страт. З усіх 54 ільноперапрацоўчых заводаў Беларусі 27 прадпрыемстваў, у тым ліку 11 — у Віцебскай вобласці, апынуліся ў крытычным становішчы, бо нарыхтавалі сыравіны для перапрацоўкі нават у два разы меней, чым у не вельмі ўдалым 1996 годзе. А да ўзроўню пачатку 1990-х гадоў аб'ём нарыхтовак ільнотрасты складае толькі 24 працэнты. Галіна падышла да такой мяжы, што далей — бездань. Льнаводства неабходна ратаваць.**

**Праблемы льнаводства былі разгледжаны 6 мая на нарадзе ў Оршы з удзелам Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі.**

*ДЭМАГРАФІЯ*

## СТАРЭЕМ

**Беларускія навукоўцы падлічылі, што за апошнюю пяцігодку сярэдняя працягласць жыцця нашых суайчыннікаў скарацілася на 4 гады.**

**Дэмаграфічная сітуацыя ў рэспубліцы радыкальна змянілася менавіта ў нашым стагоддзі. Калі яшчэ на пачатку стагоддзя беларусы ў сярэднім жылі ўсяго 37 гадоў (інфекцыйныя хваробы), то сёння вучоныя называюць лічбу 72 гады. Беларусь, як і многія краіны Еўропы, знаходзіцца ў стане дэмаграфічнага крызісу. Натуральна, адбываецца старэнне насельніцтва. Сёння пятую частку (20—22 працэнты!) жыхароў краіны складаюць людзі, якія ўжо пераадолелі 60-гадовую мяжу. Колькасць пажылых людзей працягвае расці. Што датычыцца доўгажыхароў, то на кожную вобласць прыпадае прыкладна 120—130 чалавек, якім пераваліла за 100 гадоў. У сталіцы такіх людзей менш за 40.**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

СУМА асабістага штомесячнага заробку Аляксандра Лукашэнкі складае 14 мільёнаў рублёў. Аб гэтым паведаміў сам Прэзідэнт на прэс-канферэнцыі на форуме журналістаў у Мінску.

ПЕРШЫ Беларуска-амерыканскі цэнтр здароўя жанчын адкрыўся ў Мінску. Такія цэнтры ўжо дзейнічаюць у Малдове, Казахстане, Расіі і Узбекістане.

ФІЛІЯЛ Навукова-даследчага інстытута радыялогіі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях адкрыты ў Магілёве. Тут будуць выконвацца работы па эканамічнай рэабілітацыі раёнаў, якія пацярпелі ад радыяцыі.

УПЕРШЫНЮ за шмат гадоў фактычна ўдалося спыніць падзенне здабычы беларускай нафты і ў красавіку 1998 года дасягнуць узроўню яе здабычы 100,2 працэнта (у параўнанні з красавікам 1997 года). "Беларуснафта" сёлета здабудзе 100-мільённую тону нафты на Палессі. Сёння беларускія нафтавікі забяспечваюць каля 20 працэнтаў патрэбнасці дзяржавы ў нафце.

СТАРШЫНЯ Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, старшыня Дзяржаўнай думы Расійскай Федэрацыі Генадзь Селязнёў выказаў упэўненасць, што адзіны парламент Саюза будзе. Аднак, лічыць ён, правядзенне выбараў у 1998 годзе нерэальнае. Гэта звязана з тым, што ні ў расійскім, ні ў беларускім бюджэце не прадугледжаны сродкі на такія мэты.

БЕЛАРУСКАЯ парламенцкая дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэспублікі Русланам Ігнацішчавым пабывала з рабочым візітам у Нідэрландах. Дэлегацыя наведала тэхнапарк, створаны каля пятнаццаці гадоў таму па ініцыятыве муніцыпалітэта горада Эйндховена, а таксама Нідэрландскае агенцтва па энергетыцы і навакольнаму асяроддзю.

УКРАІНА вінна Беларусі каля 214 мільёнаў долараў ЗША. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, адказваючы на пытанне аднаго з украінскіх журналістаў у час форуму журналістаў краін СНД. Пытанне тычылася тэрмінаў ратыфікацыі Беларуссю дагавора аб мяжы паміж дзвюма краінамі.

НА КОНКУРСЕ "Лепшы кіраўнік года-97", які праводзіла Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, перамаглі генеральныя дырэктары мінскіх трактарнага і аўтамабільнага заводаў Міхаіл Лявонаў і Валянцін Гурыновіч. На МТЗ, напрыклад, прыбытак ад рэалізацыі выраблёнай прадукцыі за 1997 год вырас у 4 разы, на аўтамабільным заводзе — у 2,7 раза.

СЁЛЕТА 2,3 тысячы сем'яў мінчан з 27 тысяч, што стаяць у чарзе на ўстаноўку хатняга тэлефона, дачакаюцца свайго "шчасця". Ёсць нязпўная надзея, што да 2000 года тэлефон будзе стаяць у кожным доме сталічнага жыхара Беларусі.

РАСІЯ і Беларусь у канцы 1998 года прыступяць да стварэння адзінай рэгіянальнай сістэмы супрацьпаветранай абароны дзвюх краін. Мяркуецца, што яна будзе дзейнічаць з 2000 года.



**5 мая ля стэлы "Мінск — горад-герой" школьнікі сталіцы адзначылі трэці раз свята "Дзень ружовай мары". Былі запушчаны ў неба 700 ружовых паветраных шароў, сімвалізуючых памкненне моладзі да шчасця.**

**НА ЗДЫМКУ: у час свята "Дзень ружовай мары".**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# АКУПАЦЫЯ

## 1. ВАЙНА ЗА РЭСУРСЫ

Вяліся перагаворы з галандскімі і бельгійскімі фірмамі аб будаўніцтва млыноў, аб накіраванні спецыялістаў для тэрміновых работ на тэрыторыі групы армій "Цэнтр". Праз камандуючага войскамі ў Бельгіі для Усходу былі канфіскаваны новыя мукамольныя машыны вартасцю 341 743 нямецкія маркі. Мукамольныя машыны закупляліся ў Францыі і Швейцарыі.

ЦГТ бесперапынна завозіла на акупіраваную тэрыторыю сельскагаспадарчыя машыны і абсталяванне для прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, сельгастэхніку і інвентар, спажывецкія тавары. Агульны кошт увезеных ЦГТ ва ўсходнія вобласці да 31 сакавіка 1944 года машын, станкоў, абсталявання для прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, сельгастэхнікі і інвентара, спажывецкіх і прамысловых тавараў склаў 528 000 000 нямецкіх марак. Гэта сельгасмашыны, аўтамашыны, электраабсталяванне, вугаль, нафта, упаковачныя матэрыялы, насенне, ядахімікаты, рабочая і племянная жывёла, абсталяванне.

Асноўнымі прадуктамі сельскагаспадарчых нарыхтовак лічыліся: збожжа, жывёла, мяса, тлушч, масла. Нормы нарыхтовак былі цвёрдымі: з аднаго гектара зямлі трэба здаць 25—30 пудоў хлеба, з аднаго двара — 100 кілаграмаў свінога мяса, за кожнага чалавека ў сям'і трэба заплаціць па 100 рублёў. За тое, што маеш вокны на двор — плаці за кожнае па 10 рублёў, вокны — на вуліцу — плаці 15 рублёў. Маеш у гаспадарцы сабаку — плаці 150 рублёў, ката — 80 рублёў. Паліш печ, ідзе дым праз комін — плаці за комін 25 рублёў.

Адным словам, плаці за ўсё.

Сялянам выдаваліся талоны для набыцця дэфіцытных ва ўмовах вайны тавараў. Аднак сельскае насельніцтва жыло ў галечы. Яно, як магло, забяспечвала толькі ўсім неабходным шматлікую армію партызан. Нарыхтоўка сельгаспрадуктаў канторамі ЦГТ ажыццяўлялася, як правіла, з дапамогай паліцэйскіх сіл і незлічоных карных экспедыцый.

1 красавіка 1943 года "Беларуская газэта" пісала: "Нямецкая адміністрацыя на працягу года цярпліва чакала, улічваючы ўсе цяжкасці намалоту і іншых работ, спадзеючыся, што сяляне, якія не выканалі сваіх абавязацельстваў, адумаюцца. Але, на жаль, не ўсе сяляне зразумелі гэта, і нямецкія ўлады вымушаны былі дзеля забеспячэння харчаваннем арміі, якая вас вызваліла, і забеспячэння харчаваннем вашых братоў, якія жывуць у гарадах, ужыць прымусовыя меры для здачы паставак. Калі пры правядзенні гэтых прымусовых мер здараюцца жорсткасці, то гэта вы павінны дзякаваць тым, хто не выканаў абавязацельстваў".

Рэгулярна на стол Гітлеру кладзіся дакладныя запіскі, падпісаныя Гімлерам, "аб барацьбе супраць банд". Вось адна з іх: "Аперацыя "Франц" у раёне Чэрвеня — Асіповічаў пачалася 6 студзеня 1943 года і завершана 14 студзеня. У ходзе аперацыі ў баях забіта 1 143 чалавекі. Расстраляна па падазрэнню ў прыналежнасці да банд 882 чалавекі. Захоплена 200 галоў буйной рагатай жывёлы, 200 свіней, 143 кані, 100 саней, 60 тон збожжа, 1 000 чалавек рабочай сілы".

За гады акупацыі ў Беларусі было праведзена больш 100 буйных карных аперацый.

Галоўным спажыўцом сельскагаспадарчай прадукцыі з'яўляўся вермахт. У "Цэнтры" ён забіраў амаль усю нарыхтаваную прадукцыю, на Украіне — палову, у "Остландзе" — значную частку. Бесперабойна ЦГТ дастаўляла і забяспечвала сельгаспрадукцыяй рэйх. Прадукцыйнасць апрацоўчых і перапрацоўчых прадпрыемстваў у гады вайны ўзрастала. Толькі на тэрыторыі генеральнай акругі "Беларусь" за 31 кастрычніка 1942 года было нарыхтавана: хлебнага збожжа — 44 659 тон, фуражнага хлеба — 28 333 тоны, грэчкі і проса — 3 533 тоны, бабовых — 14 600 тон. У 1943 годзе нарыхтоўкі ў "Остландзе" па хлебнаму збожжу былі выканаы на 74 працэнты, па сену — на 58 працэнтаў. На тэрыторыі тылу групы армій "Цэнтр" — адпаведна на 51 і 75 працэнтаў.

Усяго з верасня 1941 года па сакавік 1944 года на занятай савецкай тэрыторыі ЦГТ нарыхтавала і паставіла вермахту, рэйху і іншым 5 016 350 тон хлебнага і 135 574 тоны фуражнага збожжа, жывёлы і мяса — 563 660 тон, бульбы — 3 281 681 тону і шмат іншага агульным коштам 4 911 000 000 нямецкіх марак (у цэнах ваеннага часу), з занятых усходніх абласцей было дастаўлена ў рэйх 2 805 534 тоны розных грузаў.

Па меры прасоўвання савецкіх войск на захад канторы ЦГТ ліквідоўваліся ці пераносіліся ў іншыя месцы. Эвакуацыя ЦГТ "Усход" праводзілася планава і грунтоўна. Для гэтага было выкарыстана 22 496 чыгуначных вагонаў. Па даных справаздачы эканамічнай групы пры штабе групы армій "Цэнтр", толькі з Кобрына было вывезена 7 600 галоў маладняку буйной рагатай жывёлы, 7 240 авечак, 180 свіней, больш за 3 000 коней. Усё гэта было накіравана ў Германію і армейскім забойным ротам. З Віцебска ЦГТ эвакуіравала 757 вагонаў каштоўнасцей, з Оршы — 690, з Бабруйска — 252. Вывозіліся жывёла, збожжа, насенны фонд, маскатэльныя тавары, сельскагаспадарчыя машыны, станкі і абсталяванне з іншых прадпрыемстваў. Вывозіліся людзі. Як адзначалася ў той жа справаздачы, загаду на адступленне з нямецкай арміяй падпарадкоўваліся мясцовыя ваенныя фарміраванні, паліцыя службы парадку, Беларуская краёвая абарона, фарміраванні каўказцаў, казакоў і СД. У гэты час чыста цывільных капон і абозаў, якія адступалі, было вельмі мала. Значную частку насельніцтва падраздзяленні вермахта, біржы і аддзелы працы адпраўлялі прымусова на грузавіках і чыгуначнымі эшалонамі. Людзі дастаўляліся ў фільтрацыйныя лагеры на мяжы рэйха ці перадаваліся біржам працы. Толькі ў ліпені 1944 года на розныя работы ў Германію было вывезена 37 000 усходніх рабочых. Аднак большая частка мясцовых працаўнікоў ЦГТ не эвакуіравалася і не была вывезена.

З Беларусі ў Германію ў 1941—1944 гадах вывезена 90 працэнтаў станочнага і тэхналагічнага абсталявання, больш за 18 тысяч аўтамашын, 9 тысяч трактароў і цягачоў, 100 камбайнаў, 2,8 мільёна галоў буйной рагатай жывёлы, 2,1 мільёна тон збожжа і мукі, 3,1 мільёна тон бульбы і агародніны, 7,5 мільёна квадратных метраў дзелавой драўніны і піламатэрыялаў. Пагалоўе жывёлы скарацілася на 69 працэнтаў, пасяўныя плошчы — на 43 працэнты. Толькі непасрэдныя матэрыяльныя страты склалі 75 мільярдаў рублёў (у цэнах 1941 года).

Мікалай БАНДАРЭНКА.

Працяг.
Пачатак у № 18.



Атрад скаўтаў з паўсотні хлопчыкаў і дзяўчынак, створаны пры Асіповіцкай сярэдняй школе-комплексе (дзіцячым доме) № 5, — адзіны пакуль на Магілёўшчыне. Кіруе ім настаўнік гісторыі, пераможца леташняга міжнароднага марафона ў Англіі Джан Курчэўскі. Каму, як не яму, залучыць дзяцей (у некаторых з іх няма бацькоў) у спартыўныя спаборніцтвы, навучыць майстэрству гульні! Уласна, для гэтага і быў куплены ўчастак зямлі пад Асіповічамі, дзе вакол невялікага доміка абсталяваны спартыўныя пляцоўкі і юныя скаўты займаюцца валейболам і баскетболам.

НА ЗДЫМКУ: дзяўчынкі-скаўты Алеся МОХАВА і Эла ПЯТРОВА.

Фота Мікалая ЦІТОВА, БелТА.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# МАКСІМІЛЬЯН РЫЛА — ВЫГНАННІК І АСВЕТНІК

(Заканчэнне.
Пачатак на 1-й стар.).

установы — калегіум у Пінску, пабудаваны ў 1631—1635 гадах на маляўнічым беразе Піны; з 1638 года тут дзейнічала філасофска-тэалагічная школа, у XVIII стагоддзі працавалі друкарня (з 1729 года), аптэка, тэатр. Галоўная ўвага ў навучальных установах надавалася вывучэнню лацінскай мовы, у старшых класах уводзіўся асобы прадмет "эрудыцыя" з асновамі геаграфіі, гісторыі, археалогіі і прыродазнаўства. Належная ўвага ўдзялялася фізічнаму выхаванню дзяцей. Усё гэта прыцягвала ў езуіцкія калегіі і семінарыі вялікую колькасць дзяцей з арыстакратычных сем'яў. Ажыўленая дзейнасць езуітаў па прапагандзе каталіцызму прывяла да таго, што 13 сакавіка 1820 года імператар Аляксандр I забараніў іх дзейнасць у Расіі і распусціў іх арганізацыі з канфіскацыяй маёмасці. Так наш гнаны зямляк апынуўся ў Італіі.

У чэрвені 1836 года Рыла пакінуў Італію і пад псеўданімам Пятра Ролі марскім шляхам накіраваўся на Блізкі Усход (Ліван, Палесціна) з мэтай заснаваць там спецыяльную Каталіцкую акадэмію. Тут ён сустрэўся і падружыўся з польскім паэтам Юліушам Славацкім, які асісціраваў яму ў час літургіі ля Труны Гасподняй у Іерусаліме. Неўзабаве ва ўмовах палітычнай нестабільнасці на Блізкім Усходзе тайна (у турэцкім касцюме) адправіўся ў Месапатамію з мэтай археалагічных раскопак (праз Дамаск, паўднёвы ўсход Турцыі і паўночны Курдыстан). Даследаваў руіны старажытнага Вавілона, прыроду басейна Тыгра і Еўфрата, а таксама этнаграфію Ірака, Турцыі, Сірыі, Лівана. Фактычна Рыла быў першым даследчыкам археалогіі Вавілона, сістэматычныя раскопкі якога былі пачаты значна пазней (з 1899 года). У канцы 1837 года ён вярнуўся ў Рым і падарыў музею Ватыкана багатую калекцыю археалагічных экспанатаў Вавілона. У падзяку за гэта быў абраны ў Папскую археалагічную акадэмію і ў Арыенталагічнае таварыства Францыі. Праз два гады зноў адправіўся на Блізкі Усход у якасці кіраўніка езуіцкай місіі ў Сірыі, у час якой адкрыў у Бейруце Каталіцкую акадэмію — "Collegium Asiaticum" (1841) для 100 юнакоў, з выдавецтвам, бібліятэкай, майстэрнямі, вучэбнымі кабінетамі і музеем. Гэтая навучальная ўстанова ў 1875 годзе была пераўтворана ў Бейруцкі універсітэт Св. Іосіфа; да гэтай пары універсітэт лічыць Рылу сваім заснавальнікам.

У 1841—1843 гадах Рыла прысвяціў сябе рэлігійнай рабоце на Мальце (калонія Англіі з 1800 года). Заснаваў тут пачатковую навучальную ўстанову ў "езуіцкім духу", чым выклікаў незадаволенасць англійскага губернатара. У гэты перыяд ён піша каментарыі да вядомага выдання "Духоўныя практыкаванні" Ігнація Лаёлы (1491—1556) — заснавальніка ордэна езуітаў, які належаў да знатнага іспанскага роду; каталіцкі ордэн "Таварыства Ісуса" першапачаткова быў заснаваны Лаёлам у Парыжы (1534) і зацверджаны папай Паўлам III у 1540 годзе.

У 1844 годзе Рыла быў назначаны рэктарам Рымскага калегіума, які выхоўваў моладзь для місіянерскай работы. У час візіту ў Рым рускага імператара Мікалая I выказаў яму свой клопат аб беларускім народзе. Праз два гады (1846), як знаўца Усходу і арабскай мовы, быў прызначаны папай рымскім апостальскім вікарыем Цэнтральнай Афрыкі ў Хартуме. Па дарозе ў Хартум, у Бейруце, на свае сродкі набыў каштоўныя старажытныя рукапісы для бібліятэкі Ватыкана. У пачатку 1847 года прыбыў у Каір і, будучы цяжка хворым, усё ж адправіўся ў вярхоўі Ніла. Падарожжа ў Хартум ажыццявіў на лодках, часткова на вярблюдах. Неўзабаве адправіўся ў кароткачасовае падарожжа па маршруце: Хартум, Александрыя, Мальта, Бейрут, Каір, Хартум; уражанні аб падарожжы па Нілу прадстаўлены ў пісьмах, што адпраўляліся ў Ліён і Парыж.

Памёр Максімільян Рыла 17.6.1846 года і быў пахаваны ў Хартуме на мясцовых могілках. Яго прах у 1900 годзе з вялікімі ўшанаваннямі быў перавезены ў Каір і пахаваны на могілках "Аль-Матарыя". Вобраз нястомнага місіянера і падарожніка, перанесены Ю. Славацкім у XVI стагоддзе, стаў правобразам персанажа паэтычнага твора "Preliminaria peregrynacji do Ziemi Swietej I. O. Ksiecia Radziwilla Sierotki" (1841), прысвечанага графу Радзівілу Мікалаю Сіротку (1549—1616) — выдатнаму падарожніку і заснавальніку геаграфічнай літаратуры ў Беларусі.

Беларус Максімільян Рыла большую частку свайго жыцця правёў у выгнанні. Аднак і на чужыне ён знайшоў сабе дастойнае прымяненне ў асветніцтве. Яго жыццё было кароткім, але яркім, гераічным. У ім былі небяспечныя прыгоды, але была і самаахвярнасць на карысць чалавецтва.

Валерый ЯРМОЛЕНКА,
доктар геаграфічных навук.

ПАДАРОЖЖА РЫЛЫ МАКСІМІЛЯНА (1836 – 1848 гг.)



***НАМ ПІШУЦЬ***

# ВЕЧАРЫНА З Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮКОМ

*Але ці быў у вас хоць міг адзін,*
*Ахоплены павойным неспакоем,*
*Калі жанчына, лепшая з жанчын,*
*Гучала клавесіннаю струною...*
**Леанід Дранько-Майсюк.**



У сталічнай кавярні "Светайне" адбылася сустрэча з беларускімі паэтамі з Мінска Леанідам Дранько-Майсюком і Міхасём Скоблам. Імя Леаніда Дранько-Майсюка вядомае далёка за межамі Беларусі, выйшла некалькі зборнікаў яго вершаў: "Тут", "Акропаль", "Стомленасць Парыжам", на яго вершы пішуць музыку У. Буднік, І. Лучанок, Л. Захлеўны, а песні ў выкананні Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча і Анатоля Ярмоленкі "Цыганка", "Полька беларуская", "Анатоль", "Ты — каралева" на словы Л. Дранько-Майсюка сталі вядомымі, любімымі, іх спяваюць на розных імпрэзах.

Ідэя запрасіць паэта ў Вільню ўзнікла даўно, пасля тэлеперадачы "Галерэя" Т. Ягоравай, якая вельмі ўразіла і запомнілася. Герой перадачы — незвычайная, глыбокая асоба, незалежная.

Яшчэ мінулым летам паэт згадзіўся прыехаць у лістападзе, і вось вясной адбылася доўгачаканая сустрэча. Два апошнія зборнікі вершаў і эсэ "Акропаль" і "Стомленасць Парыжам" сталі не толькі настольнымі кнігамі, але і субяседнікамі, сябрамі, у якіх можна знайсці словы падтрымкі, суцяшэння. Чытаючы і перачытваючы іх, адкрыла для сябе душу чыстай, узвышанай, духоўнай, філасофскай, вечнай паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка. Яго вершы нельга чытаць зычна, з трыбуны, у вялікай зале. Для іх патрэбна камерная зала, асобы стан душы. Гэта не проста вершы, а кожны з іх — мініяцюрны лірычны раман. А ўсе разам утвараюць Гімн Каханню, Каханай, Жанчыне.

Услухайцеся ў радкі верша:

**...Ты, як малітва да Бога,**
**Недашаптаная мной, —**
**Чыстага снегу, знямога**
**Над беларускай зімой!**

**Бачыць такое магчыма**
**Хіба што ў райскім агні,**
**Дзе не старэюць жанчыны**
**І не канчаюцца дні...**

Ці:

**Жанчыну заўжды замяняе**
**жанчына,**
**Што можа не толькі кахаць —**
**разумець!**
**Жанчыну заўжды замяняе**
**жанчына,**
**І, значыць, гітарнае лісце павінна**
**Вярнуцца на дрэва і зноў**
**зелянець.**

У вершах паэта закладзена вялізная сіла, у іх музыка душы, яны змушаюць адчуваць, хвалявацца, перажываць, як падзею ўласнага жыцця.

Леанід Дранько-Майсюк — гэта з'ява ў беларускай літаратуры. А сустрэча з Вільняй і суайчыннікамі — першая, упэўнена, не апошняя. Прысутныя на вечарысустрэчы (вельмі кароткай) з таленавітым паэтам, чалавекам атрымалі асалоду і натхненне. Хвіліны цудоўнага. А пасля знаёмства з вершамі зборніка "Стомленасць Парыжам" адкрываецца талент любві, як светласць.

"Без сілы любві няма паэзіі", — напісаў Леў Талстой А. Фету. Гэта сцвярджаюць радкі верша Л. Дранько-Майсюка:

**Не праведнік, але яшчэ й не злодзей,**
**Я — той, каму пашчасціла спазнаць:**
**Жанчына адыходзіць, як стагоддзе,**
**І я хачу стагоддзе затрымаць..."**

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

**НА ЗДЫМКУ: выступае паэт Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**

# СВЯТА Ў РЫЗЕ

У Рызе, у доме, дзе месцяцца польскае, нямецкае, венгерскае, татарскае, якуцкае, украінскае і іншыя нацыянальныя культурныя таварыствы, у тым ліку і Латвійскае таварыства беларускай мовы "Сьвітанак", 29 сакавіка мясцовыя беларусы адзначалі 80-я ўгодкі абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. На свята прыйшлі не толькі сябры "Сьвітанка", але і тыя, хто падтрымлівае нацыянальную беларускую ідэю, хто неабыякавы да незалежнасці Беларусі, да роднай мовы, нацыянальнай культуры і гісторыі. Свята пачалося з адкрыцця мастацкай выставы латвійскай суполкі аб'яднання мастакоў — беларусаў Балтыі "Маю гонар" у галерэі Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі. Творчасць беларускай дыяспары прадстаўлялі Васіль Малышчыц, Кацярына Вольская, Вячка Целеш, Ларыса Лойка, Тамара і Георгій Насенкі, Рыта Пранча, Андрэй Баутовіч, Ганна Зашчырынская, Мацей Чырыч, Юля Заблоцкая ды Хведар Яцкевіч, якія выставілі на суд рыжан творы жывапісу, графікі, габелена і фларыстыкі. Тэматыка выставы была разнастайнай — партрэт, нацюрморт, але найбольш пейзажы Латвіі ды Беларусі. Пасля адкрыцця выставы ў канцэртнай зале, упрыгожанай кветкамі і беларускай нацыянальна-гістарычнай сімволікай, у магнітафонным запісе прагучала малітва "Магутны Божа", якая для беларусаў ужо стала гімнам і якая адкрыла ўрачыстую частку свята. Старшыня "Сьвітанка" Васіль Малышчыц прычытаў рэферат, прысвечаны юбілею БНР, які дапоўніў старшыня Латвійскага фонду беларускай культуры Алесь Карповіч. Былі зачытаны юбілейныя віншаванні, дасланыя латвійскім беларусам з Беларусі ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", а таксама ад беларускіх згуртаванняў і асоб Эстоніі, Англіі, Канады, ЗША і інш. Да свята была прымеркавана яшчэ адна падзея. Беларусы Рыгі павіншавалі сваіх латышскіх сяброў Мірдзу Абала з яе 75-годдзем і Ілгу Апіня з 70-годдзем. Даўні сябар беларусаў доктар філалогіі, старшыня латвійскай суполкі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, сябра рады "Сьвітанка" Мірдза Абала, аўтар артыкулаў і кніг "Дружба вечнасці" пра латышска-беларускія ўзаемасувязі, перакладчыца на латышскую мову аповесці У. Караткевіча "Чазенія", аўтар латышска-беларускага і беларуска-латышскага слоўнікa, які павінен хутка выйсці ў Рызе, заўсёды побач з беларусамі на ўсіх іх імпрэзах, канферэнцыях і сходах. Ілга Апіня не толькі шчыры сябар беларусаў, але і апантаная даследчыца і папулярызатар гісторыі і культуры беларусаў Латвіі. Доктар гістарычных навук, прафесар Латвійскага ўніверсітэта спадарыня Апіня сваімі публікацыямі ў перыёдыцы, кнігай "Беларусы ў Латвіі", даследчымі матэрыяламі ў сумеснай з У. Волкавым кнізе "Славяне ў Латвіі", якая сёлета выйшла ў Рызе, адкрыла латышам, расіянам і іншаму чытачу тую праўду пра гісторыю беларусаў, якая да гэтага часу прыпісвалася расіянам, палякам ды літоўцам. Сябар Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў І. Апіня была дэлегатам 2-га з'езда МАБ у Мінску, яна пастаянны ўдзельнік усіх сустрэч беларускай дыяспары ў Латвіі. Абедзвюм юбіляркам на гэтай урачыстасці вучнямі Рыжскай беларускай школы, сябрамі "Сьвітанка" і Латвійскага фонду беларускай культуры былі ўручаны кветкі ды падарункі.

Пасля афіцыйнай часткі і віншаванняў свой настрой у залу ўнесла канцэртная праграма. Выступленне пачалося з самага малодшага пакалення латвійскіх беларусаў. Ансамбль "Вавёрачка" вучняў трэцяга і чацвёртага класаў Рыжскай беларускай школы пад кіраўніцтвам баяніста Сяргея Калеснікава і харэографа Наталлі Шыловіч адразу зачараваў гледачоў як прыгожымі беларускімі строямі, так і цудоўнымі беларускімі танцамі "Бульба" ды "Крыжачок", парадаваў беларускімі песнямі. А пафасная песня Ганны Казловай "Жыве Беларусь!" у выкананні ансамбля ўнесла ў залу святочную ўрачыстасць дня. Моцныя пластычныя рухі і жэсты сучаснага танца з рокмузыкай у выкананні сёлетняй выпускніцы Рыжскай нядзельнай школы Веранікі Фраловай не толькі захапілі залу, але і нагадалі ўсім, што ёсць у беларускай дыяспары цудоўная энергічная і таленавітая моладзь, якой можна ганарыцца. На змену моладзі праграму канцэрта працягвала старэйшае пакаленне. Сябра беларускага таварыства "Прамень" Таісія Бачкарова прачытала верш-малітву "Магутны Божа" Наталлі Арсенневай, а таксама "Баладу пра Беларусь" Канстанцыі Буйло. Змянілі яе кампазітар і музыка Станіслаў Клімаў з Язэпам Цыргановічам, якія праспявалі папулярныя беларускія песні.

Завяршылася святкаванне застоллем з песнямі ды тостамі ў камінным зале. За доўгім святочным сталом сядзелі беларусы ўсёй Беларусі, бо былі тут прадстаўнікі ўсіх шасці абласцей яе, якіх лёс закінуў у Латвію. Гучалі тосты за беларусаў Міншчыны, Брэстчыны, Віцебшчыны, Гомельшчыны, Гродзеншчыны і Магілёўшчыны з выкананнем гэтымі прадстаўнікамі песень свайго рэгіёна. Быў падняты таксама тост за "сёмую" вобласць — Латвію, дзе мы ўсе зараз жывем. Паднялa гэты тост латышка Ілга Апіня, пасля яго ўсе падхапілі латышскую песню "Пут вэйпі", якая беларусам Латвіі стала такая ж знаёмая і блізкая, як і "Магутны Божа".

**Вячка ЦЕЛЕШ.**

г. Рыга.

# ТРАГІЧНЫ ЛЁС БЫЛЫХ ЯЦВЯГАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

сяляць паўднёвую частку яцвяжскай зямлі.

Пазней, у XII стагоддзі, у яцвягаў паспяхова пачало развівацца земляробства, сталі распадацца радавыя саюзы, паявілася радавая знаць, якая зноў рабіла набегі на рускія і польскія землі. Яцвягі палілі гарады, сёлы, нішчылі пасевы, бралі здабычу і палонных, якіх затым пераварвалі ў сваіх рабоў. У адказ на гэта валынскі князь Раман Мсціслававіч уваварваўся са сваім войскам у яцвяжскія землі і падверг іх страшэннаму спусташэнню. Нанёс смяротэльны ўдар яцвягам Даніла Галіцкі каля горада Бярэсце ў 1227 годзе. У гэтай бітве палегла многа яцвяжскіх князёў, іх землі былі заваяваны. Але ў 1242 годзе татара-мангольскія полчышчы Батыя ўварваліся ў межы Галіцкага княства, а частка татар накіравалася на поўнач і авалодала Бярэсцем (Брэстам) і Гароднем (Гроднам). Пасля гэтага яцвягі ўзнавілі барацьбу з Галіцка-Валынскім княствам. Барацьба працягвалася доўгі час з пераменным поспехам.

У 1241 годзе літоўцы захапілі горад Гродна і пачалі аказваць палітычны ўплыў на яцвягаў. На захадзе наступалі на іх палякі. Страшэннае паражэнне яцвягам нанёс польскі князь Лешак Чорны пры ўпадзенні ракі Чорнай Ганчы ў Нёман (зараз Васілевіцкі сельсавет, Гродзенскі раён). У Белавежскай пушчы ў накірунку горада Гродна ёсць невялікае ўзвышша, вядомае пад назвай "Батаровай гары", дзе, як падае легенда, Баторы, які быў каралём Польшчы, жыў у Гродне, паляваў на яцвягаў і страляў бедных дзікуноў-яцвягаў, як зброю ці мядзведзяў. Бязлітасна знішчалі яцвягаў, з аднаго боку, рускія, з другога — князі літоўскія. З прозвішчам літоўскага князя Тройдзэна звязана смутная дата — 1281 год, калі былі поўнасцю знішчаны яцвягі ў Белавежскай пушчы.

У канцы XIII стагоддзя яцвягі канчаткова згубілі сваю незалежнасць і поўнасцю падпалі пад уладу літоўскіх і часткова польскіх князёў. На землях іх пасяліліся іншыя народы, а памяць аб іх захавалася толькі ў назвах вёсак, у паданнях, сівых легендах. Яшчэ доўгі час у дрымучай, глухой Белавежскай пушчы і ў лясах Гродзеншчыны, у тым ліку Гродзенскага раёна, можна было чуць яцвяжскую мову. Асобныя словы з яе ўвайшлі ў склад беларускай мовы. На яцвяжскія землі сталі пранікаць пасяленцы з суседніх абласцей Русі, галоўным чынам дрыгавічы, часткова валыняне. Пад іх уплывам яцвягі паступова гублялі сваю этнічную самабытнасць і разам з усходнімі славянамі (дрыгавічамі і радзімічамі) увайшлі ў склад беларускага насельніцтва.

На тэрыторыі Гродзеншчыны памяць аб яцвягах захавалася ў назвах такіх вёсак, як Рамейкі, Ядзешкі, Кумялы, Скіндэр, Ясвілы, Яцыжэ, Маношкі, Шураты, Калантае. Да сённяшняга часу захавалася шмат назваў вёсак, якія нагадваюць нам былых яцвягаў у раёнах Гродзенскай вобласці: Ятвезь (Яцвезь), вёска ў Субацкім сельсавеце Ваўкавыскага раёна; Яцвезь, вёска ў Райцаўскім сельсавеце Карэліцкага раёна; Яцвезь, вёска ў Свіслацкім сельсавеце Свіслацкага раёна; Яцвеск (засценак) у Нязбодзіцкім сельсавеце Свіслацкага раёна; Яцвезь, вёска ў Вензавецкім сельсавеце Дзятлаўскага раёна; вёска Яцвезь у Васілевіцкім сельсавеце Гродзенскага раёна. Вёскі ў ваколіцах Зэльвы: Кандакі, Мадэйкі. Каля Ваўкавыска — Ясьвезь, Рупейкі, Кукуці. А таксама былых яцвягаў нагадваюць нам і такія населеныя пункты: Лунна, Волпа, Котра і іншыя.

Аўтар вядомай кніжкі "Гісторыя Літоўскай дзяржавы з найстаражытнейшых часоў" (1889) П. Брянцаў адносна яцвягаў, якія жылі на тэрыторыі Гродзенскага раёна, піша: "І ў цяперашні час на ўсход ад Гродна, у ваколіцах мястэчка Скідаль, жыве насельніцтва праваслаўнага веравызнання, размаўляе па-беларуску, але з нейкім асаблівым вымаўленнем. Яно адрозніваецца ад іншых беларусаў смуглым колерам твару, чорнымі валасамі і некаторымі асаблівасцямі звычаяў. Магчыма, што гэта і ёсць нашчадкі былых яцвягаў".



Да вышэйпададзенага матэрыялу, лічу, дарэчы прывесці выдатны верш аб яцвягах вядомага паэта **МІКОЛЫ ПРАКАПОВІЧА** "Яцвягі".

**ЯЦВЯГІ**

**Як абвал, як рака ў паводку,**
**Берагам — не стрымаць,**
**Толькі пошчак, няўцямны**
**водгук,**
**Пралящелі — і ўжо няма.**

**На пушчанскіх сівых тарпанах**
**З дзікім гіканнем — напрасткі.**
**Нечаканасцю і падманам**
**Бралі замкі і гарадкі.**

**Ды сціскае кальцо аблога —**
**І з балот, і з балтыйскіх дзюн.**
**Зноў над капішчамі Сварога**
**Страшны меч свой**
**узняў Пярун.**

**Не падлічвае Зніч ахвяры —**
**Абрываецца знічкай род.**
**У адчайныя нашы твары**
**Углядаецца змрочны гот.**

**Ні багоў, ні зямлі, ні мовы,**
**Дням наступным — дакор**
**нямы.**
**Ды ў знікненні сваім**
**суровым**
**Вечна жыць засталіся мы.**

**Апанас ЦЫХУН.**

**НА ЗДЫМКУ: Чорная Ганча. Разліў.**

XII З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

# ЗАХАВАЦЬ ЧАЛАВЕЧАЕ Ў ЧАЛАВЕКУ

У канцы красавіка адбыўся XII з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі. Прысутнічала 330 чалавек з 498 членаў СП — прафесійных празаікаў, паэтаў, драматургаў, крытыкаў, літаратуразнаўцаў, публіцыстаў. Прысутнічалі таксама афіцыйныя асобы: намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта І. Пашкевіч, старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны, намеснік міністра адукацыі А. Слука, міністр культуры А. Сасноўскі, ад Саюза кампазітараў — І. Лучанок, ад пісьменнікаў Расіі — Васіль Бялоў, Уладзімір Бандарэнка, Ігар Ляпін.

З дакладам выступіў Васіль Зуёнак — старшыня рады СП Беларусі. Ён спыніўся на асноўных момантах развіцця сучаснай беларускай літаратуры, акрэсліў мэты і задачы, якія стаяць перад пісьменнікамі ў наш складаны супярэчлівы час. Самае галоўнае — захаваць нацыянальную самабытнасць, мову, памяць, даводзіць сваімі творамі беларускаму народу, што ён народ, пашыраць яго нацыянальную свядомасць, прапагандаваць творы таленавітых беларускіх пісьменнікаў, а тым самым і духоўны патэнцыял нацыі. Дакладчык закрануў такія востранадзённыя праблемы, як улада і мастацкая творчасць, існаванне беларускамоўных школ, якіх амаль не захавалася на Беларусі, падтрымка выдання беларускамоўных газет і часопісаў, кніг з боку дзяржавы, перакладчыцкую дзейнасць, бо сусветную літаратуру нашы дзеці павінны чытаць на беларускай мове. Неабходна пашыраць прапаганду беларускай літаратуры, але ў СП ніякіх сродкаў на творчыя камандзіроўкі пісьменнікаў няма. В. Зуёнак падрабязна расказаў пра сітуацыю з Домам літаратара, які быў стрыжнем працы СП, дзе праходзілі многія мерапрыемствы: "круглыя сталы", прэзентацыі новых кніг, творчыя вечары пісьменнікаў, працавалі секцыі крытыкі, прозы, паэзіі, перакладу. Дом будаваўся на пісьменніцкія сродкі, і нашы таленавітыя творцы працавалі тут больш 20 гадоў, пачынаючы ад старэйшых: Танка, Куляшова, Панчанкі, Адамовіча, Асіпенкі, Караткевіча — тых, каго ўжо няма, і тых, хто і сёння творча працуе. Разбурэнне функцыянальных асноў Дома літаратара — гэта злачынства. "Мы звярталіся ў суд, праводзілі пікеты, але нам сказалі: "Мы навядзём парадак". Мы ўсе лічым, аднак, што Дом літаратара павінен быць захаваны як цэнтр творчага жыцця пісьменніцкай арганізацыі і наогул творчай інтэлігенцыі".

В. Зуёнак адзначыў вялікія поспехі такіх пісьменнікаў, як В. Быкаў, С. Грахоўскі, І. Шамякін, Я. Брыль, І. Навуменка, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, Г. Марчук, С. Законнікаў, М. Мятліцкі, В. Іпатава, В. Коўтун, Р. Баравікова, Я. Сіпакоў, С. Алексіевіч, А. Разанаў, А. Жук, В. Казько, А. Кудравец, Л. Дранько-Майсюк, А. Федарэнка, іншых, а таксама многіх маладых аўтараў, якія групуюцца вакол часопісаў "Маладосць", "Першацвет", гаварыў пра творчыя кантакты і ўзаемасувязі, гатоўнасць беларускіх творцаў супрацоўнічаць з міжнароднымі творчымі саюзамі. Кнігі нашых пісьменнікаў перакладаюцца і выдаюцца на многіх мовах свету.

У дакладзе былі закрануты таксама многія іншыя балючыя, надзённыя праблемы жыцця пісьменніцкай арганізацыі, розныя побытавыя праблемы, сітуацыя з Домам творчасці "Іслач", які прыйшоў у занядад з-за адсутнасці сродкаў, былі ўнесены прапановы аб некаторых зменах статута, асабліва ў адносінах з Літфондам. В. Зуёнак закрануў таксама многія грамадскія праблемы, сітуацыю на Беларусі, сацыяльную неабароненасць творцаў, кнігі якіх гадамі не выдаюцца, а ганарары такія мізэрныя, што пра іх не выпадае гаварыць: гэта проста абраза, а не аплата цяжкай пісьменніцкай працы. І ўсё ж, нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці, неспрыяльныя абставіны на Беларусі для беларусаў, кожны мастак слова жыве і творыць малітву за захаванне чалавечага ў чалавеку.

У абмеркаванні даклада выступіла каля 20 чалавек. Асабліва змястоўнымі, балючымі былі выступленні Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, В. Іпатавай, Г. Далідовіча, В. Яраца, Д. Бічэль-Загнетавай, У. Дамашэвіча, А. Каско і іншых, якія гаварылі пра ўдушэнне беларускай мовы, аб сацыяльным і нацыянальным разняволенні беларускага народа, духоўным спусташэнні, крыміналізацыі грамадства, якое павінна быць аб'яднана нацыянальнай ідэяй, аб татальнай асіміляцыі. У духу 30-х гадоў абрушваюцца праклёны на недабітых беларускіх "нацдэмаў". Але каму гаварыць пра гэта?

Востра стаяла пытанне аб захаванні творчага Саюза, немагчымасці дапусціць раскол сярод пісьменнікаў.

Выступалі прадстаўнікі рэгіянальных пісьменніцкіх арганізацый: Д. Бічэль-Загнетава (Гродна), А. Каско (Брэст), В. Ярац (Гомель), Я. Клімуць (Магілёў), якія гаварылі аб праблемах пісьменнікаў, што жывуць на перыферыі рэспублікі.

З'езд абраў новае праўленне СП. Старшынёй СП абраны вядомы паэт У. Някляеў.





У час работы з'езда.

Фота Віктара СТАВЕРА

ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ

# Майстэрня N 305

Выстава маладых мастакоў тэатра

20.04-30.05 1998

Галерэя сучаснага мастацтва АВ · Тэатра Вольная сцэна

Прыемная неспадзеўка чакае ўсіх, хто ў гэтыя веснавыя дні завітае на "Вольную сцэну". Тут, у галерэі сучаснага мастацтва "АВ", адкрылася выстава будучых мастакоў тэатра. На ёй можна пабачыць макеты да тэатральных спектакляў, эскізы дэкарацый і тэатральных касцюмаў, а таксама жывапісныя і графічныя творы. Усё гэта вучэбныя работы студэнтаў IV курса Беларускай акадэміі мастацтваў — Вольгі Васілёнак, Дар'і Волкавай, Андрэя Меранкова, Ганны Мятліцкай, Алесі Снапок і Віталя Трафімава.

"Майстэрня № 305" — так назвалі яны сваю выставу. Менавіта ў гэтай майстэрні маладыя мастакі спасцігаюць таямніцы тэатральна-дэкарацыйнага жывапісу пад кіраўніцтвам вядомага майстра сцэнічнага мастацтва Барыса Герлавана. Некаторыя з іх ужо маюць вопыт працы непасрэдна ў тэатрах. Напрыклад, у творчым набытку Ганны Мятліцкай — спектакль Магілёўскага драматычнага тэатра "Кватэра дажджу". Андрэй Меранкоў здзейсніў пастаноўку "Трызненне ўдваіх" Іанэска ў Маладзёжным тэатры. Найбольшай творчай актыўнасцю сярод аднакурснікаў вылучаецца Віталь Трафімаў. Ён аформіў шэраг спектакляў у Брэсцкім лялечным тэатры, стала ўдзельнічае ў рэспубліканскіх і міжнародных выставах, мае і першую персанальную, якая адбылася ў гэтым годзе ў галерэі "Шостая лінія".

Вельмі дарэчы, што экспазіцыя вучэбных прац студэнтаў месціцца непасрэдна ў тэатры, дзе можна пабачыць, як працуе мастак, уявіць сабе ягоную ролю ў стварэнні таго ці іншага спектакля. Аматары тэатра, якія будуць глядзець на "Вольнай сцэне" "Рычарда III", змогуць параўнаць розныя падыходы мастакоў да вырашэння адной і той жа задачы. Сваё бачанне, свой вобраз шэкспіраўскага "Рычарда III" паказвае на выставе студэнтка Алеся Снапок.

Незвычайным было адкрыццё гэтай выставы. Тэатральная дзея, якую прыдумалі арганізатары, сімвалізавала "нараджэнне" мастакоў. Яны з'яўляліся перад прысутнымі з вялізнага 30-метровага льнянога скрутка, які раскручваў дырэктар галерэі Андрэй Вераб'ёў і мастацтвазнаўца Іна Рэўт. Адзін за адным, як з яйка птушаня, вылузваліся персанажы гэтага своеасаблівага хэпінінгу. Кожны з іх з'яўляўся на свет у сцэнічным касцюме і з сваёй арыгінальнай рэплікай. Наогул, ва ўсім адчувалася, што свята ладзяць маладыя. Педагогі, якія прысутнічалі на гэтай імпрэзе — Барыс Герлаван, Віталь Герасімаў, Аляксей Марачкін, — як мне падалося, былі проста ўсцешаны вынаходлівасцю сваіх вучняў. Дарэчы, кожным разам падчас урачыстасцяў з нагоды адкрыцця той ці іншай выставы ў галерэі сучаснага мастацтва "АВ" пануе фантазія, эксперымент і вольны дух.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

З МІНУЛАГА

# ПОШТА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

Гісторыя пошты на Магілёўшчыне каранямі ідзе ў сівую даўніну. Сабраны асобныя звесткі, ёсць некаторыя даныя, але цэльнага расказа, пэўнай карціны пакуль няма.

У студзені 1667 года ў мястэчку Андрусава (цяпер Смаленская вобласць) было заключана перамір'е паміж Расіяй і Польшчай. Па адным з пунктаў дзяржаўнага дагавора вырашана было заснаваць рух пошты паміж дзяржавамі. Пошта гэтая, названая Віленскай, была заснавана 14 снежня 1667 года. Яна ішла ад Масквы праз Смаленск да мястэчка Мінгавічы ў Смаленскім ваяводстве праз польскую мяжу ля мястэчка Кадзін Мсціслаўскага ваяводства і далей на Мінск і Вільню праз Магілёў. Гэта пошта "на всякую неделю путь свой шествуя, всякие листы и ответы, государские буде будет, так и торговые" абавязана была перавозіць безупынна за пэўную плату. Працавала гэтая пошта не вельмі рытмічна і нядоўга. Таму ўжо ў 1685 годзе быў заключаны новы дагавор аб пошце паміж Пасольскім прыказам у Расіі ў асобе Андрэя Вініуса і Генеральным паштмайстрам Вялікага Княства Літоўскага Рэйнгольдам Бісінгам. Па новым пагадненні, пошта ад прускай граніцы праз Вільню, Мінск, Магілёў і Кадзін дастаўлялася ў Маскву, праходзячы ў сераду Вільню, раніцай у нядзелю — Мінск, у аўторак — Магілёў і ў сераду была ў Кадзіне. Выраз "праходзячы" не азначае, што пошта "прайшла" праз горад і толькі. У Магілёве ў той час існаваў паштовы двор, меліся паштовыя павозкі, іншае тагачаснае паштовае абсталяванне і, зразумела, паштовыя служачыя.

У час руска-шведскай вайны 1700—1721 гадоў па ўказу цара Пятра І у Беларусі будаваліся новыя паштовыя дарогі і станцыі. Рэформы Пятра І закранулі і пошту. Цару патрэбна была надзейная і трывалая сувязь, важныя былі весткі з Беларусі. Для гэтага хутка будаваліся, паляпшаліся паштовыя дарогі і станцыйныя дамы. У снежні 1707 года прайшла першая пошта па пабудаваным капітанам Г. Зезявітавым "со солдаты" тракце з Барысава ў Быхаў праз Капысь і Магілёў. Да канца 1708 года паштовыя тракты злучылі праз Магілёў, Быхаў і Капысь — Віцебск з Чарнігавам і Кіевам. У 1711 годзе на паштовых трактах Вялікія Лукі — Віцебск — Магілёў — Гомель, Магілёў — Бабруйск — Мінск на ўсіх паштовых станцыях салдаты, якія абслугоўвалі часовыя ваенныя пошты, былі заменены ямшчыкамі. Пошты сталі пастаяннымі, грамадзянскімі. Па паштовых дарогах Магілёўшчыны развозіліся не толькі казённыя і прыватныя пісьмы, але і газеты. Упершыню пачалі рассылаць газеты як рускія, так і замежныя па паштовым тракце Санкт-Пецярбург — Пскоў — Магілёў. У "Санкт-Петербургских ведомостях" ад 16 снежня 1772 года была надрукавана аб'ява, што ў Магілёве на 1773 год газета будзе каштаваць 6 рублёў.

Усё сказанае вышэй не азначае, што раней на Магілёўшчыне не было ні паштовых трактаў, ні самой пошты. У пачатку XVIII стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім было тры галоўныя паштовыя тракты, ад якіх у розныя канцы ішло мноства паштовых дарог другога разраду. Цэнтрам усіх гэтых трактаў была Вільня. У 1717 годзе варшаўскі сейм зацвердзіў расклад паштовых трактаў. Адзін з іх ішоў "na Biala Ruś przez Minsk i Mohylów do granic moskiewskich". Прычым сейм зацвердзіў пастанову, па якой гэты тракт абслугоўваўся коннымі паштальёнамі. У 1752 годзе ў горад Люблін прыходзіла пошта "літоўская з Брэста, Гродна, Вільні і Магілёва".

Амаль невядома, якія паштовыя адзнакі ставіліся пры адсылцы, атрыманні або праходжанні пісьмаў праз паштовыя станцыі. Такіх пісьмаў у калекцыях амаль не захавалася. На адных з іх ёсць паштовыя паметкі, на іншых няма. Таму зрабіць нейкія адназначныя вывады аб дзеючых у той час паштовых правілах вельмі цяжка. Вось, напрыклад, на канверце пісьма 1729 года, накіраванага "Шляхетнаму магістрату горада Магілёва", прастаўлены ад рукі такі надпіс: "Дайшло 7 верасня 1729 года". Такія ж адзнакі ад рукі сустракаюцца на многіх пісьмах. У далейшым, у пачатку XIX стагоддзя (30—40 гады), ва ўсіх буйных гарадах пачаў прымяняцца аднолькавы штэмпель з надпісам "Атрымана" і месцам для даты для запісу ад рукі. Прымяняўся такі штэмпель і Магілёўскім паштамтам.

На дарогах Магілёўшчыны ў канцы 70-х гадоў XVIII стагоддзя з'явіліся новыя паштовыя станцыі. У "Почтовом дорожнике" за 1777 год паведамлялася, што ў беларускіх губернскіх гарадах (з 1772 года Магілёў у складзе Расіі) адкрыты паштамты (1776 год) і назначаны паштмайстры. Магілёўскім паштамтам кіраваў Міхаіл Шэйба, Мсціслаўскім — Антон Фішар. У 1779 годзе беларускі губернатар і полацкі намеснік атрымалі ўказанні аб заснаванні поштаў ад Санкт-Пецярбурга да Кіева праз Магілёўскую губерню. Тады ж было ўказана на неабходнасць рамонту старых будынкаў паштовых станцый і дарог у сувязі з прыездам у Беларусь царыцы і асоб царскай сям'і. Гэтыя ўказанні садзейнічалі хуткаму будаўніцтву новых паштовых станцый. На кожнай з іх належала мець па адной фуры, зробленай накшталт каляскі, пакрытай фарбаванай парусінай з дзяржаўным гербам. У гэтай фуры павінна было змяшчацца 6 падарожнікаў, 3 пуды іх паклажы і да 6 пудоў пошты. Такія фуры хадзілі раз у тыдзень па асноўных паштовых трактах Магілёўшчыны. Але яны не падабаліся пасажырам з-за вялікай

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

# ПАНФІЛАЎКА

Іх было тры паэткі — адной паэтычнай вясны і рознага, зусім непадобнага, дзявочага харства...

Наталлю Вішнеўскую — яна пасля вайны жыла і памерла ў Ленінградзе — я ніколі не бачыла і вершаў яе не ведаю... Яўгенія Пфляўмбаўм, жонка Максіма Лужаніна, вершы свае — у сталым узросце ўжо — толькі па ёй адной вядомай прычыне ніколі не аддавала ў друк (амаль нечуваны у гісторыі літаратуры выпадак!). І толькі ў глыбокай старасці раптам (!) абазвалася на старонках "ЛіМа"... Вершы яе не проста здзівілі — яны ўразілі, яны ўзрушылі сэрцы. Сваім непадобным ні на кога гучаннем, сваёй непадобнай ні на чыю вышынёй і глыбінёй таленту.

...Незабыўныя нашы Каралішчавічы ў самыя нават стылыя восенькія дні грэлі някалі ўсіх, і найбольш бесприютных сваіх служак музам...

У Каралішчавічах упершыню мы стрэліся і збліжіліся і з Зінаідай Бандарынай.

...За кволай, вузенькай, як у дзяўчынкі-падлетка, Зінінай спіной стаяла гераічнае (зусім нядаўнае па тым часе) мінулае. Яна была панфілаўкай.

Хто сёння, без іранічнага ўсміху, прыняў бы гэта ўсур'ёз? Хто сёння памятае: "Ззаду Масква... Адступаць далей няма куды!"

(Там увосень 41-га ўпершыню было прадаўлены хрыбетнік нямецкай навале).

Дык вось: сярод тых непахісных нашых вояў, якія не адступілі, зламалі жалезны фашысцкі напор, былі і маларослыя салдаты ў ахоўнага колеру гімнасцёрках і порахам прапахлых шынелках... І гэта быў не надуманы прыгожы міф пра добраахвотніцу на той азвярэлай вайне — санінструктара Зіну Бандарыну. Гэта была Праўда.

...Ну ды з праўдай у жыцці заўсёды не надта лічыліся. Не інакш было і ў жыцці літаратурным. Пасляваенным ужо. Ну і што, калі ты была там? Хіба адна ты там была? А дзе твае вершы пра гераічны подзвіг савецкага народа? Пра непераможныя сцягі савецкай арміі? Пра нязломны наступ і перамогу савецкай зброі?

Нічога гэтага сапраўды ў вершах Зінаіды Бандарынай не было. Ці амаль не было... У яе вершах, як і на пары яе паэтычнай вясны, трапятала каханне, спявалі неўміручыя салаўі, сціпла ўсміхаліся кволыя незабудкі і рамонкі...

Каго маглі задаволіць такія вершы?..

У Зіны Бандарынай не было, не мелася прабіўной сілы, як у іншых (і жанчын таксама...) Не было ўласнага жылога кутка (яна наймала прыватны пакойчык). Не было надзейнае мужчынскае апоры, якая так заступае жанчыну ад усяго ў жыцці... У яе быў сынок Косця. Але і ён гадаваўся ў Зініных бацькоў.

...У свой час яна атрымала грунтоўную, рознабаковую адукацыю. Дачка з сям'і настаўніка (Зінаіда Бандарына нарадзілася ў Гродне 11.X.1909 г.), яна пасля Мінскага педтэхнікума скончыла літаратурна-сцэнарны факультэт Інстытута кінематаграфіі ў Маскве. А пасля і аспірантуру пры Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Ленінградзе... Яна настаўнічала яшчэ да вайны ў беларускай школе для перасяленцаў у Сібіры, працавала ў рэдакцыях газет, загадвала сцэнарным аддзелам у Віцебскім кінатэхнікуме... І пасля вайны ўжо таксама часта мяняла працу: рэдакцыі газет і часопісаў ("Зорка", "Бярозка", "ЛіМ"), Беларускае радыё, Дом народнай творчасці, загадвала філіялам Музея Янкі Купалы ў Вязынцы...

Выходзілі ў Зінаіды Бандарынай кнігі прозы: аповесці "Дыпломная работа" і "Галина Ильина" (на рускай мове), аповесць "Шуміць тайга", кніжка апавяданняў для дзяцей "Лясныя госці"...

Вершы яе з'явіліся яшчэ ў 20-я гады: зборнікі "Веснаход" і "Вершы" (разам з Н. Вішнеўскай і Я. Пфляўмбаўм).

...Вершы свае Зіна Бандарына не ашчаджала, не спісвала іміі гросбухі, што захоўваюцца і вытрымліваюць вякі... Зрэдку што друкавала, а наіболей і найчасцей раздавала-дарвала сябрам... Сябры ж, як вядома, дарункі таксама не надта ашчаджаюць... Не захавалася і ў мяне Зініных вершаў. Не знайду нідзе, не ведаю, куды дзелася і светлая, як захоплены паэтычны ўздых у прозе, аповесцы ў "Ой, рана на Івана"... Пра дзіцячыя і юнацкія гады Янкі Купалы. Захоўвалася нейкі час і таксама недзе знікла (бо не пільнуюся сваіх асабістых архіваў) Зініна пісьмо...

"Лена, каб ты ведала, як суха і як цёпла маім нагам у тваіх туфлях... Мае знасіліся і пацыклі дашчэнту..." Пісьмо было адпраўлена з Каралішчавіч. Туды я купіла і паслала Зіне — нават і надта модныя па тым часе — на таўсцеразнай мікрапорцы туфлі на восенькую слату і макрэчу.

...Зіна Бандарына памерла ў красавіку 1959 года. Па дарозе з тых самых нашых Каралішчавіч... Адна, хворая, познім вечарам вярталася яна ў Мінск...

Такая засталася легенда.

Праўды ніхто асабліва не дашукваўся...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

ПРЭМ'ЕРА



**Беларускі акадэмічны драматычны тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску ажыццявіў прэм'еру спектакля "...Таму што люблю" па п'есе Алены Паповай "Дзень карабля".**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. На пярэднім плане (сядзіць) — народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Фёдар ШМАКАЎ.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# КЛЯТВА ПЕРАД ТАСКАНАМ



**Масей СЯДНЁЎ.**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

тыст, што дзеля нейкай там сваёй веры ён не стрыжэцца. Дык от і абстрыглі.

Але баптыст не хоча ў святы ісці і на працу. Як толькі субота ці якое іншае свята, яго трэба выганяць, выцягваць з бараку. На двары ўжо стаіць выстраіўшыся брыгада, гатовая пад канвоем пакінуць лагер, а баптыст і не думае выходзіць з бараку, станавіцца ў шэрагі той брыгады, і тады брыгадзір разам з сваімі "хлопцамі" турнуць яго ў карак, б'юць, прымусова дапучаюць да брыгады. Аднак калі брыгаду падводзяць да адчыненых ужо варот, баптыст, каб не апынуцца за варотамі, кладзецца на зямлю: ісці ў святы на працу — гэта для яго вялікі грэх.

Баптыста садзяць у карцэр, пераводзяць на штрафное харчаванне, пагражаюць яму абвінавачваннем у "контррэвалюцыйным сабатажы" — нішто не можа прымусіць яго ісці на працу ў святы. І што вы думаеце — баптыста пакінулі ў супакоі: дужы і сумленны, ён у будныя дні вырабляў норму за дваіх і спрыяў, не думаючы пра тое, выкананню плана па здабычы золата. Баптыст святкаваў сваю перамогу: на святы ён адзіны раскашаваўся ў бараку, у той час як "ягоная" брыгада ішла аддаваць сваю сілу ўсемагутнаму золату.

У бараку, аднак, не шанцавала баптысту на суседзяў: з аднаго і з другога боку ў яго на нарах ляжалі ўгалоўнікі-рэцыдывісты і ўсяляк кпілі з яго, перашкаджалі маліцца. Калі перад сном на каленях ён пачынаў маліцца, нахабнікі скублі яго за бараду, калі тая была яшчэ не адцятай.

Зняволеныя, як рэдка калі, арганізаваўшыся, заступіліся за баптыста: вытурылі ўрку, што месціўся вобак мяне, і на ягонае месца паклалі баптыста. Баптыст стаў маім суседам. Але выйграў ён не шмат: як і ўсе, я лаяўся, а такой брыдкасці баптыст не мог зносіць. І баптыст пачаў мяне ўсведамляць. Лаянка, казаў ён, — гэта грэх, а грэх аддзяляе чалавека ад Бога. Стаўляе яго па-за Богам. Грэх найперш калечыць, забівае ў чалавеку дух, а потым штурхае чалавека на рознае злачынства. Грэх — гэта выклік Богу, выклік Ягонай Волі, непадпарадкаванне Яму. Чалавек схільны да грахоўнасці, і Бог, ведаючы гэта, хоча забегчы гэтай грахоўнасці. У імя чаго? У імя выратавання чалавека. Але на шляху выратавання перашкодай стаіць наш грэх. Грэх — гэта джала смерці. Грэх у супрацоўніцтве з смерцяй. Ты ўсведамляеш гэта? — пытаецца ў мяне баптыст. Я маўчу. Тады ён нечакана: колькі нас тут, у бараку? Семдзесят чалавек, га? Вось жа зажмур вочы і на якую часіну прыслухайся — што ты пачуеш? Не што іншае, як несціханую, густую лаянку. І раніцай, калі мы паспешліва збіраемся на працу, і ўвечары, прыйшоўшы з працы, мы выказваем сябе з дапамогай лаянкі. Лаянка сталася ў нас тым сродкам, пры дапамозе якога мы выказваем свае, нат самыя інтымныя пачуцці. Лаянка сталася нашай **мовай**. **Падмяніла** мову. Вось твой сябра, вядомы беларускі пісьменнік, інтэлігентны чалавек, а паслухаеш яго — перасыпае амаль кожнае слова лаянкай. Або й ты... Чаму ты лаешся, паганіш сваю душу? Хочаш быць такім, як **яны**? Хочаш змяшацца з імі, каб яны палічылі цябе **сваім**? Каб табе было лягчэй з імі абыходзіцца? Або хочаш апраўдацца: маўляў, цяжкія ўмовы змушаюць. Не, братка, бяры віну на сябе! Страшна не зняволенне, не турма, а страшна абязлюдзіць сябе, страціць воблік чалавека, паддацца Сатане, гэтаму князю цемры.

Я, канешне, пагаджаўся з баптыстам, але ўсё тое, што ён гаварыў, я ўспрымаў, так бы мовіць, разумова, яно не адкладвалася дзесьці глыбей, заставалася на паверхні свядомасці. Дзівіўся начытанасці баптыста, якога, дарэчы, украінскае НКВД напачатку абвінавачвала ў трацкізме: падчас арышту ў яго на кватэры знайшлі вокладку кнігі Троцкага "Уроки Октября" ("урокі" тыя скурый брат баптыста), і "трацкізм" адпаў, баптысту прышылі "групавую контррэвалюцыю": на баптысцкім "зборышчы" ў сябе дома, маўляў, пад выглядам тлумачэння Біблії крытыкаваў мерапрыемствы савецкай улады...

Бег час, і нашу "каманздіроўку" (гэтак называліся на Калыме прыіскі) закрылі: кацірoўшчыкі знайшлі, што золата на ёй больш няма, вычарпана і трэба перабірацца на новую "камандзіроўку". На новую камандзіроўку накіравалі мацнейшых. Слабакоў, "дахадзяг", у тым ліку і мяне, перакінулі на лесанарыхтоўкі. Трапіў у гэтую катэгорыю і баптыст — начальства хацела збавіцца ад яго.

І гэтак мы на лесанарыхтоўцы. Наша тэхніка — піла і тапор. Жывём у якуцкай юрце. Была зіма. Дні кароткія. Мароз — лінеш высока ўгору кубак вады, яна падае долу ільдом. Баптыст прапанаваў мне працаваць з ім напару. Казаў, у мяне лёгкая рука, і мяне не трэба цягаць на піле. Паводле веку, баптыст мог бы быць маім бацькам і можа дзеля гэтага шкадаваў мяне: падстаўляў сваё плячо пад камель, калі ў канцы дня трэба было зносіць нарыхтаваныя намі матэрыялы ў штабель; уставаў рана, каб натачыць пілу, зрабіць разводку, давесці яе да стану як найлепшага, каб яна хадзіла як найлягчэй. Я чуў, як ён ціха, каб не ўзбудзіць мяне, вастрыў рашпілем з'едзенае зуб'е нашай пілы. А то падчас малітвы тым ці іншым рухам свае рукі неўпрыкмет кладзе на мяне, яшчэ соннага, тайныя знакі благаслаўлення. Ягоная ўвага, дабрыня цяплілі, ачышчалі маё сэрца, здымалі з яго накіп непрагляднай будзённасці, змяншалася мая лаянка, хоць ейная аўтаматычнасць яшчэ не пакідала мяне: як што не так — і яна гатова да паслугаў. Баптыст прабачаў мне лаянку, рабіў выгляд, што не чуе — ніякага папроку і ўшчування. І я зазнаваў пачуццё сораму.

Усё ішло сваім звычайным ходам. Праца ад цёмнага да цёмнага. Штодзённае, паднявольнае, шэрае існаванне. Аж нашу юрту напаткала нязвыклае: не прыйшоў з працы чалавек, разгледзеліся, што ў брыгадзе не хапае аднаго чалавека. Кінуліся на пошукі. Была зорная ноч, і мы ўгледзелі на высокім сугробе чалавека, што сядзеў, нібы ў крэсле, апёршыся спіною на снежны завал. Мы аклікнулі яго на імя, але адказам была жудасная маўкліня: чалавек акалеў, адышоў. Не захацеў болей жыць. Аддаў сябе ў абдымкі надзейнага службі — мароза. Прынеслі ў юрту. На падлозе гарою ляжаў распёрты марозам пакутнік з струйкай ярка-чырвонай крыві на барадзе.

Наша юрта ўжо ніколі не будзе такой, якой яна была дасюль.

Гэтак здарылася: без напарніка, аднаму, мне трэба было трапяваць з лесасекі нарыхтаваны намі матэрыял. З вялікімі цяжкасцямі я ўскачваў на адмысловыя сані бярвенне, але з імі, надта даўгімі, мне цяжка было выязджаць з гушчару на пратораную санную дарогу. Кіпеў. Нерваваўся. Лаяўся. Тузаў у злосці сваіго каняку. Калі ўсё ж законны тралёўку, выехаў на пражзаную ў глыбокім снезе дарогу, знясілены дарэшты, я сеў на свой трэлер-сані. Аціх. Супакоіўся. Дзесьці ўнізе вызваляўся з сваіх зімовых аковаў Таскан, магутны, ламаў, крышыў лёд, гнаў тоўстыя, велічэзныя крыгі, сваім гулам запаўняў прастору. Высокія горы, што абступалі яго, адгукаліся доўгім, урачыстым рэхам. Я слухаў, і гэты велічны гул-гармонія спараджаў мір у маёй душы, я адчуў такое, чаго раней не было, — пакору. Адданасць усяму існаму.

І міжволі я прысягаў Таскану: ніколі болей.

**Масей СЯДНЁЎ.**

*1998. Глен Коў. ЗША.*

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

* * *

Невядома, беды зкуль,
Што з кім раптам можа
стацца. —
Часам быць на валаску,
За саломінку хапацца.

Ды не рвецца валасок —
Павуцінкай з тых лясоў,
З тых палёў у родным краі —
І саломінка трымае.

* * *

Працягваем адзін другому
рукі
І мужна ў кругавой дабра
паруцы
Трымаем кругавую абарону,
Ідзе ў атаку зло.
А час няроўны.

Ну як свае пазіцыі
здадзім мы!
На здзек сваіх нашчадкаў
аддадзім мы!
Няўжо свае вышыні не
ўтрымаем!
Падмогу ж мы ад продкаў
сваіх маем.

### КАВАЛЬСКАЕ ШЧАСЦЕ

Месяц з неба цікаваў,
Заглядалі зоркі ў вочы,
Як Паўлюк свой верш каваў,
Гартаваў да позняй ночы.

Лені волю не даваў,
Уяўленню даўшы волю,
Колькі год Багрым каваў
Сваё шчасце — жырандолю.

Будуць жыць за векам век,
Як дагэтуль — веку болей
Жырандоляй — добры верш,
Добрым вершам —
жырандоля.

* * *

Я да радні прыеду летам
І спаць на сене — папрашу.
Адныя думкі ўжо аб гэтым
Мне лечаць зёлкамі душу...

Падчас гаючыя не меней
Ўспаміны лашчаць сэрца мне:
Малы так рад я спаць на сене
З братамі разам у гумне.

І ў хаце соладка мне спіцца
На пахкім, свежым сенніку.
Таму так часта лета сніцца,
Спраўляе баль зіма пакуль.

І, юнаку, мне так прыемна
На сене спаць, бо сам касіў,
Сушыў і часам гэта сена
З балота ў рэзгінах насіў.

Няхай сабе я не Ясенін,
Скажу па шчырасці, аднак,
Што лепш яшчэ было
на сене —
З дзяўчынай мілай да відна...

...І на тым свеце родным
людзям,
Маім бацькам, братам маім
Няхай зямелька мяккай будзе,
Хай, як на сене, спіцца ім.

А я пакуль на свеце гэтым
Лячу, як зёлкамі, душу,
Што да радні прыеду летам
І спаць на сене — папрашу.

### ДАЎГАЎПІЛСКАЙ «КУПАЛІНЦЫ»

Гожа сонца пеўчае
Песняй заліваецца.
Хай табе, "Купалінка",
Так заўжды спяваецца.

І з Радзімай ніточка
Век не абрываецца,
І ў барах радзімавых
Песня адгукаецца,

Толькі ў слёзках радасці
Вочанькі купаюцца,
І кастры купальскія
Ў сэрцах разгараюцца.

Хай заўжды "Купалінцы"
Гожа так спяваецца,
Быццам сонца роднае,
Песняй заліваецца!

### ЭЛЕГІЯ

У душы часамі ўскалыхнецца,
Хвалямі пагладзіўшы па
сэрцах,
Цёплым успамінам захлісне
Лівень той шчаслівень,
нібы ў сне...

...Быццам навальнічная навала
Нас разліць вадою спрабавала
Ў полі,
Ды ніяк не разліла,
Як рукамі, нас не развяла...

Лівень той чакана-нечаканы
Перш чым, нібы ў Лету,
у лета кане,
І табе і мне не раз яшчэ —
Скоціцца дажджынкамі
з вачэй...

# ПОШТА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

колькасці багажу і непрыстасаванасці паштовых трактаў. Фуры праіснавалі да 1827 года і былі заменены дыліжансамі на тракце ад Пецярбурга да Кіева і далей да аўстрыйскай граніцы. Праходзіў гэты шлях праз Віцебск, Магілёў, Чарнігаў.

У першай палове XIX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі будуюцца дарогі новага тыпу — шаша. Першая такая дарога з'явілася ў 40-х гадах мінулага стагоддзя. Яна звязала Маскву з Варшавай. Былі таксама пабудаваны новыя паштовыя тракты Брэст-Літоўск — Бабруйск, Бабруйск — Магілёў. З 1850 года паштовыя экіпажы з поштай і пасажырамі адпраўляліся з Санкт-Пецярбурга да Магілёва і Бабруйска. Адтуль пераязджалі на новую лінію шашы і ехалі да Брэст-Літоўска і далей да Варшавы.

Тады ж пачалося ўдасканальванне і некаторая рэарганізацыя паштовай службы. У сакавіку 1838 года на падставе зацверджанага 3 чэрвеня 1837 года "Указа аб земскай пошце Магілёўскай губерні" была створана земская пошта. Было складзена "подробное расписание пунктам избранным по удобности для перемены лошадей земской почты в каждом уезде с описанием расстояния всякого пункта от уездного города и взаимно один от другого". Пасля доўгіх перагавораў і працы такі расклад быў складзены з улікам ямшчыкоў і коней у земскіх станах, колькасці коней у так званых гаспадароў — тых, хто за плату аддаваў земству коней для перавозкі пошты, а таксама "чтобы земская почта безостановочно могла иметь всегда следование от места первой перемены лошадей далее по уезду".

"Пункты для перемены лошадей земской почты назначены по уездам — Могилевскому: первый от Могилева до м. Шклова — 32 версты, 2-й от м. Шклова до села Тубышки — 20 верст, 3-й от села Тубышки через м. Круглое в м. Тетерин — 20 верст и 4-й от м. Тетерин через м. Головчин до м. Княжиц — 3 версты, а из Княжиц в Могилев — 13 верст". У 1840 годзе ў беларускіх губернях быў пачаты (да канца ён так і не адбыўся) паштовы эксперымент: праект наладжвання "рассыльнай пошты па паветах", мэтай якога было задаволіць у паштовых зносінах не столькі сельскае насельніцтва, якое не асабліва карысталася паштовымі паслугамі, колькі інтарэсы памешчыкаў, якія жылі ў адным павеце. Але аказалася, што паны аднаго павета не вельмі жадаюць пісаць адзін другому пісьмы. За 1841 год па рассыльнай пошце ў Магілёўскай губерні было адпраўлена ўсяго адно пісьмо. Праект не быў прыняты. Пошта працавала добра і без гэтага праекта. У 1850 годзе ў Магілёўскай губерні было адпраўлена па пошце 136 мільёнаў рублёў і атрымана 204 мільёны рублёў. У канцы другой паловы XIX стагоддзя, калі ў Расіі з'явіліся паштовыя маркі і штэмпелі, пачаўся новы этап у развіцці пошты на Магілёўшчыне.

Леў КОЛАСАЎ.



## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЛЮБІЦЬ ПЕСНЮ

# ОЙ, У ПОЛІ

Апрацоўка М. КОРСАКА



Ой, у полі, пры даліне, кучаравы дуб стаяў,
Пад тым дубам зеляненькім хлопец з
дзеўчынай гуляў. /2 разы

Дзяўчынанька маладая, прыгажуня кветачка,
Паланіла ты хлапчыну, бэзавая кветачка. /2 разы

Ой, у полі, пры даліне, кучаравы дуб стаяў,
Пад тым дубам зеляненькім дзеўку хлопец
цалаваў. /2 разы

Вецер вее, вецер вее, ветачка калышацца.
Ой, не вер, дзяўчына, хлопцу, пакуль
не запішацца. /2 разы

## БЕЛАРУСЫ Ў ПАРЫЖЫ

Як паведаміла "Магілёўская праўда", у Музеі Акадэміі мастацтваў Цэнтральнай Еўропы ў Парыжы адкрылася выстава работ мастакоў з розных краін свету. Трапілі сюды і беларусы, Нашу рэспубліку прадстаўляе магілёўскі мастак Валеры Юркоў. Парыжане змогуць убачыць пейзажы "Раніца", "Чырвоны куст", "Ноч", "Вёсачка", на якіх аўтар адлюстраваў маляўнічыя куткі Магілёўшчыны.


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).





НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 760.
Падпісана да друку 11. 05. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.